Год I. Лістапад 1932 г. № 11.




Ты єси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Матд. ѕі. ӣі.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



---

# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.

„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Лістапад. 1932 г. № 11.

## Сабор Сьв. Архістратыга Міхала.

*(8 лістапада).*

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 10, 16-21; ЗАЧАЛА 51.*

*16. Сказаў Госпад сваім вучням: Хто вас слухае, Мяне слухае: і хто вас чураецца, той Мяне чураецца, а хто чураецца Мяне, чураецца і Паслаўшага Мяне.*

*17. Семдзесят вучняў вярнуліся з радасьцю, кажучы: Госпадзе, і бесы пакараюцца нам у Імя Тваё*

*18. І сказаў ім: Я бачыў шатана, што падаў з неба, як маланка.*

*19. Вось даю вам уладу наступаць на зьмеяў і скарпіёнаў і на ўсякую сілу варожую, і нішто вам не зашкодзіць.*

*20. Аднак ня цешцеся з таго, што пакараюцца вам духі: але з таго цешцеся, што імёны вашыя запісаны на нябёсах.*

*21. У той час узрадаваўся Духам сьвятым Ісус і сказаў: Выслаўляю Цябе, Ойча, Госпадзе неба і зямлі, што Ты ўтаіў гэта ад мудрых і разумных, і адкрыў гэта простым. Так, Ойча, бо гэта Табе спадабалася.*

Сьвятая царква Хрыстова сяньня праслаўляе сьвятых ангелаў, сьвятыя нябесныя сілы, а асабліва іх начальніка, сьвятога Архістратыга Міхала.

Госпад Бог стварыў ангелаў, жыхароў неба, перад стварэньнем зямлі і людзей. Як навучае навука сьв. Царквы, Госпад Бог стварыў нябесных духаў усіх сьвятымі, добрымі, і не магло быць інакш: ад Бога ня можа выйсьці дрэннае, толькі сьвятое.

Адна часьць ангелаў збунтавалася: праз пыху не хацелі гэтыя ангелы слухаць Самога Госпада Бога, дзеля чаго сьцягнулі на сябе вялікую кару: разам са сваім павадыром Люцыпарам былі скінутыя з неба да пекла.

Паміж добрымі ангеламі, вернымі Госпаду Богу, і злымі завязалася барацьба, павадыром добрых быў сьвяты Архангел Міхал, а з другога боку павадыром быў Люцыпар. Завязалася паміж двома павадырамі страшэннае змаганьне, запанавала цішыня на небе: ўсё неба прыглядалася да гэтай барацьбы. Перамог аканчальна сьвяты Архістратыг Міхал, усе нябесныя ангелы запяялі Госпаду Богу гымн падзякі і славы: *„Святъ, святъ, святъ Господь Саваоѳъ, исполнъ небо и земля славы Твоея, осанна въ вышнихъ“.*

Падумайма, дарагія браты хрысьціяне, што было прычынаю ўпадку Люцыпара і ўзвышэньня сьвятога Міхала.

Прычынай упадку для Люцыпара была пыха, а сьвяты Архангел Міхал, па прычыне вялікае свае пакоры, быў узвышаны над усімі жыхарамі неба.

Як калісьці на небе, так цяпер і на зямлі людзі падзелены на 2 часьці: адныя належаць да шатана, кіруючыся пыхаю выказваюць бунт проці Бога і Яго сьвятой волі, а другія пакорна ідуць за Хрыстом, Яго навукаю і, па магчымасьці, стараюцца жыць паводле волі Божай.

Сьвет падзелены на два лягеры: да аднаго кліча Ісус Хрыстос, а да другога — Антыхрыст.

Хрыстос абяцае шчасьце вечнае ў царстве нябесным і паказвае дарогу, якая да гэтага вечнага шчасьця вядзе. Дарогаю гэтаю ёсьць пакора і ўмярцьвеньне. Вучань Хрыстоў мусіць *адрачыся ад самога сябе, узяць крыж свой штодзённы і ісьці за Хрыстом* (Лук. 9, 23). Хрыстос сам дае прыклад: праз усё жыцьцё быў пакорны і асабліва сваіх вучняў заахвочваў да пакоры: *„Вазьмеце ярмо Маё на сябе і навучэцеся ад Мяне: бо Я ціхі і пакорнага сэрца, і знойдзеце супакой душам вашым“* (Мац. 11, 29).

Праўда, цярністая дарога, каторую вядзе Ісус Хрыстос да шчасьця, гэтага Ён ня ўтойвае, але напэўна давядзе да шчасьця, шчасьця вечнага.

Таксама і нячысты дух кліча да сябе, абяцаючы шчасьце. Вядзе да шчасьця праз пыху і дагаджаньне сабе ўва

ўсім, дагаджаньне, галоўным чынам, нізкім пажаданьням чалавека.

Чалавек імкнецца да шчасьця, хоча быць шчасьлівым, але, калі пайдзе за голасам чартоўскім, дык ня будзе мець шчасьця, бо злы дух, як калісьці ашукаў нашых першых бацькоў у раі, так і цяпер — толькі зводзіць. Чалавек, што няўпынна дагаджае сваім цялесным і іншым дрэнным жаданьням, ня толькі па сьмерці, але яшчэ за жыцьця на зямлі, адчувае пекла ў сваёй душы. Тутака, як скаціна, жыве няшчасна, а што казаць аб яго жыцьці па сьмерці.

Сяньня сьвет падзелены на два лягеры, і вядуць барацьбу на сьвеце два сьветапагляды: Хрыстоў і чартоўскі. Людзі таксама падзелены: на Хрыстовых і чартоўскіх.

Чэрці і іх памоцнікі стараюцца з усяе моцы адвясьці людзей ад Бога, пасеяць паміж людзьмі няпрыязьнь, распаліць у чалавеку пыху і дрэнныя пажаданьні.

За галоўны прынцып шатан бярэ пыху, праз пыху стараецца асягнуць сваю мэту.

Чорт і чарцяняты з воблікам чалавека, каб адвясьці людзей ад Бога, падсоўваюць ім фальшывы сорам: як табе ня сорам, — кажуць, — хадзіць да царквы, слухаць сьвяшчэньнікаў, прыступацца да споведзі, прымаць сьвятое Прычасьце, гэта — кажуць, — робяць толькі людзі цёмныя, дурныя бабы ды старыя, з глузду зьехаўшыя, чалавек разумны, адукаваны даўно гэта ўсё пакінуў.

Калі-б спыталіся ў гэтых „вучоных“ чартоўскіх памоцнікаў, дзе яны вучыліся, якую школу скончылі, дык, дапраўды, зьдзівіліся-б, скуль у іх такая фанабэрыя, бо гэтакі „вучоны“ бязбожнік ледзь чытаць умее, а мо' і зусім няпісьменны.

Адносна да бліжніх, чорт, каб пасеяць паміж людзьмі нязгоду, раздувае ў чалавеку самалюбства, падсоўвае яму надмернае перацэньваньне сваей асобы, пабуджае да гневу, нецярплівасьці.

Каб вывесьці чалавека на бездарожнае, распуснае жыцьцё, падсоўвае яму думку, каб карыстаў з кожнае магчымасьці дагаджэньня сабе; а, каб заглушыць суменьне, падсоўвае яму думку, што гэта рэч ня так вельмі дрэнная, і іншыя так робяць. А ў канечным выніку, — калі пойдзе за падшэптамі чорта, чалавек мае ў сэрцы роспач. Нават тыя, што цягнулі да граху, цяпер адступіліся ад яго. Так абыходзіцца сьвет з чалавекам, так робіць чорт і чарцяняты з ім, калі жыве паводле іх волі: выціснуць чалавека, як цытрыну, а пасьля кінуць, як рэч непатрэбную.

Дарагія, браты хрысьціяне, калі хочаце прыкладу, дык лепшага прыкладу ня можна знайсьці, як прыклад намалёваны нам самым Ісусам Хрыстом у прыказцы аб блудным

сыне. Такіх сыноў і дачок, запраўды няшчасных, шмат можна сустрэць і ў нас, асабліва ў вялікіх гарадох.

Зусім інакш, іншай дарогай вядзе Ісус Хрыстос і прыводзіць ца зусім іншага выніку. Чалавек, што кіруецца пакорай адносна да Бога і людзей; чалавек, што ўстрымлівае сябе ад грахоўнага дагаджаньня свайму целу і сваім пажаданьням, — такі чалавек здаволены ў гэтым жыцьці на зямлі, і мае права спадзявацца шчасьця вечнага ў небе.

Уявем сабе нявінную дзяўчыну, якая любіць хадзіць да царквы, часта моліцца Госпаду Богу, якая вядзе жыцьцё нявіннае, аднак лічыць сябе грэшніцаю, часта спавядаецца, ачышчаючы сваю душу нават ад невялікіх штодзенных грахоў і недасканальнасьцяў, — часта прыймае да свайго сэрца Ісуса Хрыста ў Сьвятым Прычасьці, вядзе запраўды жыцьцё сьвятое. Усе яе любяць і шануюць, напэўна любіць яе і Госпад Бог і багаслаўляе яе. Чуецца гэткая дзяўчына шчасьліваю нават і ў гэтым жыцьці, хаця чураецца сьвету і яго здаволеньняў. Напэўна шчасьлівейшая гэткая дзяўчына за тых, што жывуць разгульна, далёка ад Бога, ад сьв. Царквы.

Вось, мае дарагія браты хрысьціяне, маеце перад сабою 2 лягеры, лягер Ісуса Хрыста і лягер Антыхрыста. Паказаў я вам, якою дарогаю вядзе Хрыстос, а якою шатан, цяпер кожны хай падумае, за кім пайсьці, па якой дарозе? Калі хто хоча ісьці за Хрыстом, хай выкіне з свайго сэрца пыху і непамерную ахвоту дагаджаньня, — дух Хрыстоў — гэта дух пакоры і умярцьвеньня.

Праўда, трудна нам перамагчы усіх ворагаў нашага збаўленьня, нават нашае цела бунтуецца проці нас, але трэба ведаць, што з намі і за нас вядуць барацьбу ангелы, пад павадырствам сьвятога Архістратыга Міхала. Калі нам цяжка, калі нам ня будзе хапаць сілы адалець спакусы, тады да сьвятых ангелаў, асабліва да сьв. Архістратыга Міхала зьвярнемся з гарачаю малітваю; яны нам памогуць. Канчаю гэту навуку славамі трапара на сяньняшняе сьвята: *„Небесныхъ воинствъ архистратизи... отъ бѣдъ избавите насъ, яко чиноначальницы вышнихъ силъ“.*

*а. Антоні.*



Г. Кастэльнык.

# Вялікія людзі.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

## 1. Майсеевы разважаньні.

Хто любіць сваё жыцьцё, той уцякае перад сьмерцю бо ня можа яе перадужаці.

А Майсей, той біблійны Майсей, насіў у сабе жыцьцё міліёнаў — жыцьцё цэлага свайго няшчаснага народу, і любіў яго — ах, як любіў! Адно толькі й меў журбу ды надзею, думы ды лятункі пра долю міліёнаў: як ратаваць народ? што рабіць? адкуль пачаць? як скончыць?

Фараон і яго дочанька цешыліся, што ўдалося ім узгадаваць для Эгіпту другога Язэпа: чалавека нязвычайна разумнага, моў яснавідучага, палкага да дзела, вытрывалага. Ён збаўляціме Эгіпэт ад непрадбачаных няшчасьцяў... І ўжо выставіў Фараон маладому Майсею грамату на намесьніка аднэй з найбольш загрожаных правінцыяў... Але — рэчы ня так складаюцца, як людзі хочуць, — таго-ж дня, як Фараон меў урачыста ўручыць Майсею дэкрэт, даведаўся ён пра „здраду“ свайго выхаванка.

Майсей мусіў уцякаць. А цэлае эгіпэцкае самапачуцьцё, што не сумлявалася ў сваёй сьвятасьці, было сьмяротна абражана ягоным паступкам. „Або мы, або ён!“ — думалі Эгіпцяне пра Майсея. „Або я, або яны!“ — думаў Майсей пра Эгіпцян. Але іх было шмат, а ён, —пакуль што, — быў адзін, дык мусіў уцякаць.

Пакуль знаходзіўся ў межах Эгіпэцкага царства, перабягаў, хаваючыся, з месца на месца, засопшыся, моў сарна, каторую гончыя сабакі гоняць. Аж урэшце, апынуўся на Мадыямскай зямлі, што на Сынайскім паўвостраве, дык адатхнуў спакайней, стаў пачувацца чалавекам.

Быў вельмі змучаны. Дасюль быў у дарозе пераважна начамі, а цяпер захацелася яму адпачыць, хоць адну ночку. А сонца ўжо кланілася да захаду. Уцякач разглядаўся па ваколіцы: дзе-б сабе месца выбраць на-нач? Па правым баку пачыналіся камяністыя горы, а адна скала стырчэла адзінока, бы вялізарны стоўп, бясьпечная ад зьвяроў пустыні. На тую скалу ўзьлез Майсей і сеў на яе, абярнуўшыся тварам да Эгіпту і да заходзіўшага сонца.

Хвала Табе, Божа! — ўздыхнуў, нахмурыў бровы, і думаў... Зажадаў ён быў адпачынку не для самога адпачынку. Гарачэй жадаў ён супакою для думаньня й гаданьня. Людз-

кая душа ў ім, прыбітая ў мінулыя нядаўныя дні ліхою доляй, захацела свабодна выпраставацца... патрапястаць крыльлямі...

Адзеты ў белую эгіпэцкую палатнянку, з пірамідальным эгіпэцкім капялюшом на абголенай і абстрыжанай на эгіпэцкі лад галаве, ды абсмалены ўвесь ад жары сонца, прыгожы на твары, стрункі целам — ён выглядаў у праменьнях заходзіўшага сонца моў пустынны ангел, што прабрыў праз пустынныя пяскі і журыцца: як-бы гэну няшчасную краіну ажыцьцёвіць?...

І калі-б ня тыя жывыя, палкія, моў раньняя зара, яго вочы, дык можна было-б лічыць яго за непарушную мармуровую статую. Але тыя вочы!... Чыстая душа, каторая яшчэ не падобна да выцертай і запэцканай адзежы фабрычнага работніка (бо да таго падобны душы ў нашых „паступовых“ часах), тая душа ўжо на першы пагляд прад імі задрыжала-б. А каб яшчэ да іх бліжэй прыглянулася, магла-б вычытаць з іх тайну, што хавалася за імі .. што яны ня звычайныя сабе чалавечыя вочы, але з пустынных вятроў, якія бурай панясуцца над эгіпэцкаю ракою і прыкажуць ёй: выйдзі з берагоў сваіх! — і выйдзе; і скажуць дню: зьмяркайся! — і зьмеркне, мору прыкажуць: расступіся! — і расступіцца; скале прыкажуць: выпусьці ваду, — дык выпусьціць.

—:—

— О, Мізраім!*) уздыхнуў Майсей, кідаючы свой погляд на далёкія эгіпэцкія даліны.

Ты маё гора, ты мая і надзея!

Мы яшчэ ня можам разлучыцца! Не! Твае балацістыя палі, твае цагельні і піраміды-нагробкі для памёршых Фараонаў, а турмы для маіх братоў, я прынёс у думках аж сюды на гэтую скалу і пустыню!

Не! Такі не разлучымся! Аддай мне маё—тады разьвітаемся! Паадчыняй свае турмы і аддай мне тры мільёны маіх сэрцаў, што мучацца ў катарзе! О, як мучацца — аж тут на скале, тутака ў пустыні, далёка ад цябе іх стогны чую!

Ня думай, горды Мізраіме, што я цябе пакінуў, каб да цябе не вярнуцца! Не! Вярнуся, але з бураю, з бураю, што парве мільёны тваіх жывых людзкіх істотаў, зробіць з іх вал, які зраўняе за сабой дарогу...

—:—

А ў той час, як ён так гаварыў (бо ня толькі думаў, але і гаварыў), заходняе сонца адбівалася ў ягонай душы,

*) Так пажыдоўску завецца Эгіпэт.

у моры безьбярэжным, і гойдалася ў ёй агністае сонечнае кола — зыбалася, як-бы ў моры бязьмежным...

—:—

Зямная мудрасьць — гэтага мала! і зямля — яшчэ мала! Вось таму я і пахіснуўся ў сваіх намерах і пачынах. Замала рахаваў я на Бога, на сілу, што раздае жыцьцё і сьмерць, а ніхто ня цяміць: калі і як?

Бога мне трэба! неба мне трэба!

Помні, горды Мізраіме, прагнаў ты мяне, каб я ў пустыні Бога знайшоў і з небам зрабіў саюз! У цябе я быў адзін — адзін між тваімі сынамі, адзін між тваімі братамі, бо яны сьляпыя, ім яшчэ вочы не адкрыліся, і яны мяне не пазналі. Але... Ня тужы перадчасна! У саюзе з Богам — з Тым, што больш значыць, як тры мільёны войска, вярнуся назад да цябе!

Я знаю сваю мэту: у пустыні, на чужыне, на самоце шукаціму доступу да Бога.

—:—

Маю злосьць на Фараона і на цэлы двор яго? Ён-жа ж мяне хоча забіць! Але калі б мяне той Фараон ня прытуліў да сябе, і калі-б не насычаў мяне сваім багацьцем і не разьвязаў мне душы прасьветаю свайго двара, дык што было-б? Цяпер я гэта добра разумею. Я тады быў-бы такою самаю немаю жывёлінай, як і мае браты, што адвеку гніюць па цагельнях, — тры мільёны людзкіх істотаў бяз людзкога шчасьця і долі!

Багацтвам я насыціўся і ня меў ужо чаго шукаць для сябе. Зьвер ува мне насыціўся, і — як дасьпелы плод падае з дрэва — прапаў. А тады адкрыў я ў сабе другое сваё „я“ — ня тое, што замыкаецца само ў сабе, а тое, што расплываецца па ўсёй маёй мінулай і цяперашняй гісторыі. Я даведаўся, што я выступіў у сьвет, як праўнук, унук, сын і брат мільёнаў. І зажадаў я, каб так-жа тое маё другое „я“, тое вялікае, шырокае, было шчасьлівым. Ды яно ў няволі! .. А прасьвета навучыла мяне, што тое маё „я“ даражэйшае і важнейшае, чым маё асабістае ністожнае „я“. *Так-жа ж і Бог клапоціцца аб усіх, а ня толькі аб Сабе.*

Таму я забіў эгіпцяніна, што ён зьдзекаваўся над маім братам — над адным сэрцам майго вялікага „я“. Рахунак быў просты: варта раздушыць чарвяка, каб не заразіў цэлага цела.

—:—

Так разважаў Майсей, седзячы на скале сярод шырокай пустыні, моў ангел пустынны і горача думаў.

—:—

О, Мізраіме! О, браты мае! Як вас сабраць? Як вас прыгарнуць да сябе? Як вам памагчы? О, каб я мог разбудзіць у вас тое другое „я“ — то‘ сьвятое, што дбае пра ўсіх!

Але вас паны-валадары сумысьля і гвалтам у пялёнках трымаюць, у калысцы, каб вы ня прывыклі сваімі нагамі хадзіць. Яны ж хочуць з вас мець толькі худобу — толькі рабочае цягло, — дык так вас і ўзгадоўваюць. Адзін пастух малы, слабы, а над сотнямі валоў пануе, робіць з імі, што хоча. Бо ў валоў меншае „я“, чымся ў яго. Ён пра ўсіх думае, а яны кожны толькі пра сябе. Яны разьбітыя, аддаленыя адзін ад аднаго, кожны рупіцца толькі аб сабе, а ён лучыць у сабе долю і сілу ўсіх. Іх самых вядзе ён да самагубства, а яны неразумныя слухаюць яго: жывыя жывых цягнуць пад разьніцкі нож. Сяньня чарга на гэтага, заўтра—на тога, за год — на ўсіх. А яны пра тое і ня ведаюць, бо ня думаюць пра цэласьць. толькі кожная адзінка сама пра сябе.

Так было, так ёсьць, так і будзе... Гора валом! О, няшчасны мой народ нясе на сабе долю ярэмных валоў!

—:—

І заплакаў Майсей, горкімі сьлязьмі заплакаў. Капалі яго сьлёзы на пустынны пясок — і, пакуль што, ня прыносілі яму — таму пяску — плоднасьці, не пакрывалі яго маннаю. Але ў душы Майсеевай зарадзіліся манныя расьцінкі, каторыя пасьля дзень-у-дзень пакрывалі пустыню нябеснаю маннаю.

—:—

(*Канец будзе*).

*Пераклажыў* НАДБУЖНЫ.



# „Да вси едино будутъ“.

Узьвіжаньне! колькі радасьці нясе яно нам наша дарагое Узьвіжаньне. То-ж наша сьвята, сьвята нашае парахвіі. Усе: блізкія і далёкія родныя і чужыя прыяжджаюць і прыходзяць у Далятычы, у нашу невялічкую вуніяцкую цэркаўку пачарпнуць Божае моцы на цяжкую дарогу жыцьця. Але ня было ў нас Узьвіжаньня, як такрочняе, бо яно было праўдзівае Узьвіжаньне. Быў пастаўлены мясцовай моладзьдзю і кс. Татарыновічам вялікі дубовы крыж з напісам на яго касавіку „Да вси едино будутъ“.

Ужо мінуў год. Ізноў наша моладзь маўляў прабудзілася. Ізноў загарэлася жаданьнем зрабіць урачыстым Узьвіжаньне. І ці-ж ня цешылася вока прысутных, убачыўшы йзноў наша Узьвіжаньне?! Гірлянды кветак аздаблялі цэркву. Стройны сьпеў узварушваў сэрцы на'т найбольш закамялых у граху—прыпамінаў ім Бога. Падчас літургіі а. Ант. Неманцэвіч сказаў казаньне пабеларуску, якое глыбінёю зьместу і чыстатою роднага слова пацягнула да сябе прысутных. Беларускае казаньне ў нас лічыцца сьвяточным, бо рэдка бывае, што вельмі балюча закранае беларускую душу і служыць падпораю ворагам уніі, якія здалелі адарваць ад нашае парахвіі дзьве вёскі і аддаць праваслаўным. Аднак Далятычы цьвёрды ў сваім напрамку і вераць у час лепшае будучыні, як вераць у патрэбу злучэньня, якая важнейша за пераходнае казаньне ў чужой мове. Кончылася літургія, і вырушыў крэсны ход на рынак пад той дубовы крыж з напісам „Да вси едино будутъ“.

І табе радасьць, крыжу-сымболю. І табе сьвята. Прышлі верныя слугі аддаць табе чэсьць і пасьведчыць сваю гатоўнасьць к змаганьню са злом. І ўбачыў вяшчун Хрыстовае Навукі сваю апору-народ, яшчэ цьвярдзей пачуў сябе ў сэрцы Далятыч і ярчэй праявіў ідэю свайго Вучыцеля „Да вси едино будутъ“.

Пад крыжам было прачытана сьв. Эвангельле пабеларуску і папольску і кс. дзекан з Наваградку сказаў казаньне папольску. Ізноў заварушыліся ворагі уніі і пачалі шаптаць супроць Далятыч, часта паўтараючы слова „паляні-зацыя“. Але крыж дубовы быў тут ім адказам, бо набегла касулька сонца і яскрава асьвяціла яго напіс „Да вси едино будутъ“.

Так скончылася першая часьць нашае ўрачыстасьці. Старэйшыя пайшлі прымаць сваіх гасьцей, а моладзь рынула ў прыгатаваную залю на скокі. Загрымела музыка і пашлі маладыя ногі выраблянь розныя фігуры кадрыля ды лявоніхі. „Хлопцы, то-ж яшчэ будзе прадстаўленьне“ — сказаў нечы звонкі голас. І праўда, — а 7 гадзіне ўвечары

пачалося прадстаўленьне. Вельмі лоўка адыгралі аматары-артысты „Птушку шчасьця“ Фр. Аляхновіча, якая папаўняла гармонію цэлай урачыстасьці. Прысутных было моц. Ад воплескаў і здаровага сьмеху аж трасьліся сьцены будыніны, і толькі недзе каля дванаццатае разыходзіліся людцы, ўспамінаючы прабег узьвіжанскае ўрачыстасьці. Ішлі міма й крыжа, які стаяў непарушна і на яго касавіку ў цемнаце чуць прыкметна чарнелі эвангелічныя словы:„Да вси едино будутъ“.

*Я. К.*

---

# Пакрава — ў Збуражы каля Берасьця.

Пакрава, або сьвята Апекі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі — гэта вялікае сьвята ў Збуражы, Берасьцейскага павету.

Сёлета было асаблівае сьвята, бо ў Збуражы была выбудавана на гэтае сьвята уніяцкая капліца і першы раз у ёй было ўрачыста адпраўлена набажэнства.

Унія, дзякаваць Богу, шырыцца, маем яшчэ адну новую пляцоўку ў Збуражы.

Пачатак злучэньня ў Збуражы палажыў а. Вачынскі ў лонскім годзе. Сам прыняў унію, а таксама і другіх за сабой пацягнуў. Яшчэ няшмат уніятаў у Збуражы, але усё гэта людзі ідэйныя і стойкія за справу сьвятога злучэньня. Асабліва адданы сьвятой справе псаломшчык К. Дабішук.

Цяжка было збуражцам, пакуль ня мелі свае царквы. Маліліся на вёсцы пад крыжам або ў якой-небудзь хаце. Цяпер справа пасунулася ўперад. Збуражцы маюць вельмі энэргічнага і цалком ім адданага Настаяцеля а. Зенона Шымкевіча. Не шкадуе ён ані свае працы, ані грошай, дзякуючы яго клопатам і ахвярнасьці, у гэтак хуткім часе злучаныя праваслаўныя або уніяты ў Збуражы маюць сваю царкву і ўсё патрэбнае для адпраўляньня набажэнства.

На фэст прыехала 3 сьвяшчэньнікаў: Мітрафорны Пратаерэй а. Гапановіч, а. Пратаерэй Ар. Нікольскі і а. А. Неманцэвіч з Альбэртына. Народу было натоўп, пяяў вельмі добра царкоўны хор пад упраўаю К. Дабішука.

Былі сказаны 3 пропаведзі, якія зрабілі на слухачоў вялікае ўражаньне.

Новаму уніяцкаму прыходу жадаем, каб, у хуткім часе, ня толькі збуражцы, але і ваколічныя вёскі прылучыліся да яго, каб сьвятая ідэя адзінства хрысьціянскага ўсіх прыняла да аднае аўчарні пад павадырствам аднаго кіраўніка царквы — сусьветнага Архірэя Папы Рымскага.

*а. Антоні.*

# Мэморыялы ў справе Альбэртына.

Як ужо ведама нашым чытачом, група абшарнікаў Слонімскага павету на адным з сваіх сходаў, — пасьля прамоваў двух, добра вядомых у Слонімшчыне, працаўнікаў унійнае акцыі, — пастанавіла выслаць да Я. Э. Архіяпіскапа Ялбжыкоўскага мэморыял, у якім просяць аб злажэньні да ног Яго Сьвятасьці Папы гарачае просьбы „аб загадзе а. а. Езуітам пакінуць пропаганду ўсходняга абраду... і пакінуць апеку над тымі, хто хоча вярнуцца на лона Цэрквы, духоўнікам лацінскага абраду.“

Насяленьне Альбэртына, ў пераважнай сваёй большасьці, было парушана гэтым мэморыялам. Самахоць і бяз ведама Айцоў, яно пастаралася злажыць адзін, а пасьля і другі мэморыял да таго-ж самага Віленскага Архіпастыра, востра, — іншы раз мо' і залішне востра, — крытыкуючы няўдалае выступленьне слонімскіх абшарнікаў і горача бароннячы Айцоў усходняга абраду.

—„Суменьні нашыя, — пішуць аўторы аднаго з гэтых мэморыялаў, — кажуць нам, што мы ня можам застацца нямымі на несправядлівыя закіды,якія проці Айцоў Езуітаў выслала да Вашай Эксцэленцыі група абшарнікаў. Шмат ігноранцыі, калі ня злое волі, можна знайсьці ў іх мэморыяле... Ён паўстаў з агітацыі лічаных адзінак, вядомых сваёю няпрыхільнасьцю да унійнае працы. Проці яго протэставаў гэткі паважны абшарнік, як граф Пуслоўскі, не хацеў прылажыць рукі да яго граф Язэп Стэцкі і іншыя тутэйшыя абшарнікі. Нам няпрыемна і балюча, што, за сваю руплівую працу над душамі нашымі і братняга насяленьня... Айцоў гэтак блага зразумелі і заатакавалі! Як-жа ж шмат, нявымоўна шмат добрага яны зрабілі і робяць тут, у Альбэртыне, сярод усіх вераваньняў і абрадаў!!! Толькі сьляпы гэтага ня бачыць! Колькі народу паднялі з моральнае і матар'яльнае галіты, колькі згасілі ненавісьці... — гэта можам сказаць мы, што блізка каля іх жывём і на іхнюю працу глядзімо“.

—„Што-ж аб усім гэтым могуць ведаць, — дадае другі мэморыял, — тыя, хто ня жыве на абшары Альбэртына, а можа і зусім ня верыць, хто пражывае за некалькі, а нават і за некалькі дзесяткоў кілёмэтраў адсюль? Што ім судзіць аб нашым суменьні, веры і мове? Якую мову ўнасьледавалі ад нашых продкаў, гэткаю і маліцца не пакінем!“

У канцы абодва мэморыялы блізка што сходзяцца адзін з адным:

— „Зьвяртаемся да Вас, Найдастойнейшы Пастыру, каб усёю сваёю павагаю захацелі выступіць проці гэтых пісаных паклёпаў і сталі на абарону нашых праўдзівых апякуноў, дабрадзеяў тутэйшай асады і ваколіцы.“

Абодва гэтыя мэморыялы падпісала каля 340 асобаў, сярод якіх не бракавала прадстаўнікоў розных станаў і прафэсіяў, абрадаў і вераваньняў. Польскае насяленьне, лацінскага абраду, якому аўторы абшарніцкага мэморыялу любяць прыпісваць асаблівую неахвоту да „усходніх Езуітаў,“ як-бы дзеля запярэчаньня іх вэрсіям, зλажыла пад мэморыялам найбольш подпісаў, бо каля 200, да іх прылучылася каля 80 подпісаў з уніяцкіх кругоў і каля 40 праваслаўных.

Не абышлося і без няпрыемных труднасьцяў пры зьбіраньні гэтых подпісаў. Некаторыя адзінкі, ідучы на повадзе вядомых у павеце праціўнікаў унійнае акцыі, або залежныя ад іх, не шкадавалі спробаў тэрору, каб перашкодзіць тым, хто падпісваўся або зьбіраў подпісы. І бывала, што ў некаторых трывожнейшых вырывалі гэткім спосабам пяро з рук. Аднак-жа рашучасьць і павага самастойнага альбэртынскага жыхарства ўзяла верх і абодва мэморыялы высланы да Віленскага Архіпастыра.

*Альбэртынец.*

**усходняга абраду.**

---

## ВОСЕНЬ.

На дварэ за вуглом
Вые вецер ваўком,
Рве салому з страхі няпрытомна;
Ноч лажыцца кругом,
Абымае ўсіх сном,
Неяк робіцца жудасна-цёмна.
Гэта восень ідзе,
Гразь, балота вязе,
Ліст на дрэве ад страху жаўцее.
Ў сэрцы чуецца сум,
Ў галаве нейкі шум,
Быццам жыцьце, ня могучы, тлее.
Гэй, бадзёры мой дух!
Яшчэ ты не патух
Ўзварухніся, дай доступ паветру!
Загарышся тады
Яркім полымем ты
І пакажаш сябе ўсяму сьвету.

*Янка Невук.*

# Наш адказ.

## I.

У № 36 „Б. Крыніцы“ зьмешчаны артыкул Праваслаўнага дзеяча пад загалоўкам: „Праваслаўе і унія.“ Даю кароткі адказ на галоўныя цьверджаньні артыкулу.

1. *Унія*, — піша Праваслаўны дзеяч, — *будзе заўсёды залежчая ад польскага ўраду ня менш як цяпер праваслаўная царква.*“

На гэта можам адказаць: галоўнаю характарыстычнаю прыметаю уніі ёсьць яе залежнасьць ад духоўнае найвышэйшае ўлады — Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага, а не ад сьвецкае ўлады.

Мітрапаліта Дзяніса, галаву Польскае Праваслаўнае Царквы, паставіла на гэтае становішча польская сьвецкая ўлада, каторая можа яго таксама зьмясьціць. Зусім іншая справа з Папай Рымскім Піусам XI: ніякая сьвецкая ўлада яго не паставіла і скінуць яго з Апостальскага Пасаду ня можа. Як-жа можна казаць, што Папа Рымскі і тая царква, кіраўнікОм якое ён зьяўляецца, больш залежна ад польскае ўлады, як праваслаўе?

2. „*Унія цяпер знаходзіцца ў залежнасьці ад тых самых польскіх біскупаў, ад якіх залежны і Каталіцкі Касьцёл з беларусамі-каталікамі.*“

На гэта адказваю: залежнасьць уніі ад япіскапаў лацінскіх гэта толькі да часу, гэта доўга быць ня можа, для кожнага ясна. Спадзяёмся, што ў хуткім часе будзем мець свайго япіскапа. Нават і япіскапы лацінскія выразна дазваляюць, а нават і загадваюць, каб навукі ў уніяцкіх цэрквах гаварыліся пабеларуску. (Зьезд у Вільні 1928 г.).

3. „*Тут хацеў-бы я спытацца прыхільнікаў уніі, піша Праваслаўны дзеяч, — што цяпер унія дала беларусам? Ці унія стварыла кадры беларускага духавенства? Ці па ўсіх уніяцкіх царквах ушанавана беларуская мова? Ні адно, ні другое.*“

На гэта коратка адкажу: паводле магчымасьці, унія дае і адно і другое, кажу, — паводле магчымасьці, — бо ня можна ад уніі, якая толькі нарадзілася, вымагаць, каб яна выдала ўжо „кадры“ беларускіх сьвяшчэньнікаў. Сэмінарыя ў Дубне істнуе толькі другі год, сьвяшчэньнікі гэта не каравai, не сьпячэш іх за адзін дзень. Сьвяшчэньнікаў сэмінарыя добра прыгатаўляе і выдасьць у сваім часе беларусаў, бо іх мае. Навіцыят у Альбэртыне, каторы істнуе з 1926 г., ужо выдаў 14 беларусаў — выхаванцаў, якія пайшлі або да працы, як а. Неманцэвіч (рэдактар „Да Злучэньня“), або на студыі.

Мова беларуская па магчымасьці ўводзіцца, і пропаведзі гаворацца пабеларуску. У № 35 „Бел. Крыніцы“ чытаем:

„Для новых беларусаў—уніятаў ужываецца ў нас пераважна мова беларуская, што ахвотна паддзержывае і Ватыкан.“

А чаму не ўва ўсіх царквах уніяцкіх? Вінаваціць тут трэба ня нас, а праваслаўе, якое Праваслаўны дзеяч мае адвагу бараніць у беларускай газэце. Праваслаўе гэтак абрусіла беларускі народ, што ён часта ня хоча слухаць беларускае мовы. Вось галоўная прычына, чаму ня маем магчымасьці, пакуль што, (гэтак мо' доўга ня будзе), па ўсіх нашых цэрквах на Беларусі гаварыць толькі пабеларуску. Найбольшы наш вораг, браты беларусы, мусім сказаць праўду, гэта адсутнасьць сьведамасьці народнай у самых беларусаў.

Гэта адсутнасьць сьведамасьці таксама была прычынай, чаму і Рым ня мог для нас многа зрабіць. Напэўна Рым заложыць калегію і для беларусаў, калі яны будуць, і яны самыя гэтага захочуць.

*Рым*, кіраўнічы цэнтр сусьветнае царквы, гэта *ня руская царква*, і напэўна ня будзе перашкаджаць ніякай нацыі ў яе разьвіцьці, а яшчэ паможа.

*Праваслаўе*, як праўдзіва яго называе наш народ, гэта *руская царква*, руская вера. Там кіраўнікі толькі расейцы, нават ня думаюць ісьці на ўступкі беларусам.

Ад праваслаўя яшчэ і таму ня можа спадзявацца беларус нічога, што яно залежна ад Дзяржаўнае Ўлады. Калі-б нават яно захацела пайсьці на ўступкі, дык могуць яму забараніць і пакіраваць на іншую дарогу.

Пэўна-ж, ня трэба забываць, што унія, або імкненьне да рэлігійнага злучэньня ўсіх хрысьціян, гэта справа чыста рэлігійная. Адносна да народнасьці, сусьветная царква шануе кожны народ і ягоную мову, і для беларускага народу яна ў яго адраджэньні можа прынясьці толькі карысьць.

## II.

Пяройдзем да Варшаўскага „Слова“ № 57. У дарагіх нашаму сэрцу братоў, нязлучаных праваслаўных, III Унійная Канфэрэнцыя ў Пінску прычыніла „хвараблівае раздразьненьне і гарачку“. Мы ведаем, што ім наша праца не падабаецца, аднак будзем ісьці далей, выпаўняць волю Хрыста. Пакінем мы сваю работу толькі тады, калі яны нам дакажуць, што Хрыстос заснаваў некалькі цэркваў, дзеля гэтага ўсе цэрквы роўныя, сьвятыя. О не, гэтага яны ніколі не дакажуць. Хрыстос заснаваў толькі адну царкву, адна царква толькі праўдзівая, сьвятая, да гэтага адзінства мы імкнёмся. — Пакіньце нас у супакоі,—мо' скажаце, — мы ня хочам злучыцца з вамі.—Ня хочаце, будзьце спакойнымі, ня трывожцеся, сілком вас не пацягнем.

Мушу яшчэ зьвярнуць увагу на некаторыя месцы артыкулу: „Слова“ № 57 пад загалоўкам „Не хватитъ силы“,

Вельмі прыкра, што аўтор артыкулу паслугоўваецца дэмагогіяй:

*Каторы,—гаворыць аб Ісусе Хрысьце, —жывучы на зямлі не займаў палацу ў адзінаццаць тысяч пакояў, а ня меў дзе галовы Свае прыкланіць.*"

Ведае добра аўтор, што піша няпраўду; скуль ён налічыў адзінаццаць тысяч пакояў у Папы? Пэўна, што высмактаў з пальца, піша маючы на прымеце цёмных чытачоў, каторыя ўсяму паверацць.

Адносна да лічбы 500 у Люблінскай эпархіі, мушу вытлумачыць, што а. Неманцэвіч (а не а. Аношка), падаючы гэту лічбу, меў на ўвазе ня толькі наверненых з Праваслаўя, але ўсіх каталікоў усходняга абраду, таксама выхадцаў з Галіцыі, якіх шмат ёсьць, асабліва ў самым горадзе Любліне.

„*Уніятаў,*—піша далей „Слово,"—*можна налічыць,у Городле і Грабоўцу, каля сотні, купленых за грошы.*"

Ня будзем спрачацца адносна да лічбы, але катэгарычна гэтаму мушу запярэчыць, што гэтыя душы купленыя за грошы. Хай аўтор дакажа, што хоць адна душа прылучылася да уніі за грошы. О не, мы ня купляем душ. Нам прадажных душ ня трэба.

Канчае аўтор свой артыкул словамі: „*Пакіньце нас у супакоі. Усё роўна ў вас ня хопіць сілы*" Я ўжо сказаў, чаму мы працы над злучэньнем хрысьціян ня можам пакінуць. Ці хопіць сілы, гэта будучыня пакажа. Ідзём у імя Госпада Бога Нашага Ісуса Хрыста, выпаўняем Яго сьвятую волю, каб усе былі адно (Іо. 17,19), таксама маем права спадзявацца ад яго помачы, а калі Хрыстос будзе з намі, дык хопіць нам сілы пабароць перашкоды да злучэньня хрысьціян у адну сьвятую сусьветную царкву.

—о—

У № 56 Варш. „Слова", падана пісьмо пад загалоўкам: „Въ м. Жировицахъ". Усё, што там сказана, не згаджаецца з праўдаю:

1) Няпраўда, што меў быць у Жыровіцах каталіцкі япіскап і ня прыехаў.

2) Няпраўда, што маланка ўдэрыла ў касьцёл і разьбіла купал. Калі хто ня верыць, дык можа праканацца, — купал над касьцёлам стаіць, як стаяў.

3) Няпраўда, што сабралася народу ня больш як 240 чалавек багамольцаў, было іх каля тысячы. Гэта няважна, ці было 200, ці тысяча, але нашто паслугоўвацца няпраўдаю? „Няпраўдаю, — як кажа народная прыказка. — далёка заедзеш, але назад ня вернешся."

*Злучэнец.*

# Хроніка.

**1. Ковель.** У Ковелі 16 кастрычніка с. г. Я. Прав. Япіскап Мікалай Чарнэцкі пасьвяціў новую царкву ўсходня-славянскага абраду а.а. Рэдэмпторыстаў. Пры царкве гэтай істнуе ўжо прыход. Жадаем вельмі паважаным а.а. Рэдэмпторыстам на новым месцы багаслаўленьня Господняга ў працы.

**2. Варшава.** Паявілася ў Варшаве кніжка Гэнрыка-Ігната Дубенскага пад назовам: „Droga na Wschód Rzymu“. 3 кастрычніка с. г. Я. Эмінэнцыя Кардынал Какоўскі асобным дэкрэтам забараніў чытаць, трымаць у сябе і бараніць погляды, якія ў гэтай кніжацці знаходзяцца.

Забарона зусім справядлівая, хай будзе гэта прадасьцярогай для ўсіх ворагаў унійнае працы, асабліва для няпрыхільнікаў з вілен. „Слова.“

**3. Падзяка Сьв. Айца Кардыналу Какоўскаму.** (КАП). Сьв. Айцец Піус XI прыслаў апошнім часам Я. Эмінэнцыі Кардыналу Какоўскаму, Архіяпіскапу Варшаўскаму, асабістае багаславенства, выяўленьне свае спагадлівасьці і гарачую падзяку за выступленьне Кардынала проці кнігі п. Гэнрыка-Ігната Лубенскага п. н. „Droga na Wschód Rzymu“.

**4. Баранавічы.** 16 верасьня с. г. прыехала з Савецкай Расеі 16 сьвяшчэньнікаў, вымененых на камуністаў. Усе яны сядзелі ў вастрогах, некаторыя аж 9 гадоў. Паміж імі ёсьць і уніяцкі сьвяшчэньнік а. Данат Навіцкі, высьвячаны Я. П. Япіскапам Слосканам на Салоўках. Пакуль што, амаль усе сьвяшчэньнікі адбываюць карантын ў Баранавічах(Ogrodowa 1). Як расказваюць прыехаўшыя да Польшчы сьвяшчэньнікі, страшэннае прасьледаваньне хрысьціян бальшавікамі не слабее, а яшчэ больш узмацоўваецца. У Пецярбургу толькі адзін каталіцкі сьвяшчэньнік на свабодзе Амудрю, а ў Маскве — Я. П. Япіскап Нэвэ. Каб ня былі яны французамі, дык таксама сядзелі-б у турмах, з французамі бальшавікі лічацца . Як ведама, езуіт Япіскап Д'Эрбіны тайком высьвяціў 4 япіскапаў. Доўгі час нават сьвяшчэньнікі нічога аб гэтым ня ведалі. Расказваў адзін сьвяшчэньнік вельмі цікавы выпадак: Аднаго разу, у 1926 годзе, ладзілася ўрачыстае набажэнства ў Пецярбургу. Да асысты патрэбныя былі дзьякан і іпадзьякан. Клерыкаў няма, дык за дзьякана папрасілі сьвяшчэньніка а. Іванова,а іпадзьяканам не адмовіўся быць Я. Прав. Япіскап Слоскан, — ніхто ня ведаў, што гэты пакорны іпадзьякан, прыслужваючы да Сьв. Літургіі простаму сьвяшчэньніку, ўжо высьвячаны япіскап. Трэба было да пары захаваць сакрэт, а пасьля ўсё выясьнілася.

З 4 япіскапаў 3 на выгнаньні ў далёкіх кутках Савецкай Расеі, толькі адзін япіскап Нэвэ на свабодзе, але і той вельмі зьвязаны ў сваёй дзейнасьці.

**5 Памёр каталіцкі сьвяшчэньнік ў савецкай турме.** (КАП). Літоўскія газэты даносяць, што да Коўна прышла вестка з Масквы аб сьмерці ў бальшавіцкай турме ў Новасыбірску а. Язэпа Сенавайтыса, заслужанага сьвяшчэньніка і апякуна няшчасных у Чалябінску.

**6. Дзейнасьць Я. П. Япіскапа—Візытатара Мікалая Чарнэцкага.** 21.IX с. г. адправіў архірэйскую службу Божую ў Гумнішчах, 25.IX у Грабоўцу, 27.IX ўГорадле, 29.IX ў Косуцы, 9.X ў Тырасполі, 14.X. ў Дубэчне і 16.X у Ковелі, дзе пасьвяціў прыгожа адноўленую царкву а.а. Рэдэмпторыстаў на Будаўлянай вуліцы № 3, нарэшце 13 і 14 мае адпраўляць службу у Бытэні—месцы працы і дзейнасьці Вялікага мучаніка сьв. Язафата.



# Календар

на м—ц Лістапад 1932 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | ЛІСТАПАД | | | LISTAPAD |
| 1 | П | Кузьмы і Дзям'яна | 14 | P | Jozafata |
| 2 | А | Акіндына | 15 | A | Gertrudy |
| 3 | С | Айталя | 16 | S | *M. B. Wostrabramskaj* |
| 4 | Ч | Іоанікія | 17 | Č | Salomei |
| 5 | П | Галяктыёна | 18 | P | Ramana |
| 6 | С | Паўла яп. | 19 | S | Alžbiety |
| 7 | Н | *22 н. па С.С.Д*, Лазара | 20 | N | *27 n. pa S.S.D.* Feliksa W. |
| 8 | П | *Сабор Міх. Арх.* | 21 | P | Alberta |
| 9 | А | Анісіфора | 22 | A | Cecylii |
| 10 | С | Эраста | 23 | S | Klemansa |
| 11 | Ч | Міны | 24 | Č | Jana ad Kr. |
| 12 | П | Івана Міл. | 25 | P | Kaciaryny |
| 13 | С | Івана Залатавусн. | 26 | S | Jana Berchm. |
| 14 | Н | *23. н. па С.С.Д.*, Пілiп.ап. | 27 | N | *1 n. Adwentu*, Walerjana |
| 15 | П | Гурыя | 28 | P | Ździsławy |
| 16 | А | Матэуша | 29 | A | Saturnina |
| 17 | С | Грыгора | 30 | S | Andreja |
| | | | | | ŚNIEŽAŃ |
| 18 | Ч | Платона | 1 | Č | Eligija, Natalii |
| 19 | П | Аўдзея | 2 | P | Bibiny |
| 20 | С | Прокла. | 3 | S | Franciška Ksaw. |
| 21 | Н | *23 н. па С. С. Д.* Ув.ў Хр.Б. | 4 | N | *2 N. Adwentu*, Barbary |
| 22 | П | Філімона | 5 | P | Anastazii |
| 23 | А | Амфілакія | 6 | A | Mikałaja |
| 24 | С | Кацярыны | 7 | S | Ambrožaha |
| 25 | Ч | Клімэнта | 8 | Č | **Niep. Pač. N. Dz. M.** |
| 26 | П | Алімпія | 9 | P | Leokadyi |
| 27 | С | Якуба | 10 | S | *N. Dz. M. Loretanskaj* |
| 28 | Н | *25 н. па С.С.Д.* Сьцяпана | 11 | N | *3 N. Adw.*, Damazaha |
| 29 | П | Парамона | 12 | P | Alaksandra |
| 30 | А | Андрэя ап. | 13 | A | Lucyi |